№ 10. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 10 (102). Год II. Вільня, 2 лютаго 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Крызіс сусьветнай вайны.

### 1 лютаго.

**Заходні тэатр:**

Шмат у якіх пунктах фронту наступленьня патрулёў далі цэнные ведамасьці аб ворагах.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Пры вельмі сільным марозі толькі у невялікім чысьле пунктоў вастрэйшая баевая работа. Пры Нараўцы, на палудзенным усходзі ад Ліпніцы Дольнай, часьці аднаго саксонскаго палка ўварваліся нарасейскую пазыцію і вярнуліся назад с 60 палоннымі і 1 кулемётам.

На фронці *эрц-гэрцога Іозэфа* і на фронці *Макензэна* — патрульные стычкі і момэнтамі агонь артылерыі.

*Македонскі фронт*: На палудзенным заходзі ад возера Дойран адбіты наступаўшые пасьля сільнаго агня патрулі.

---

### Падвоз расейскіх войск.

КОПЭНГАГА. С пэўнай крыніцы даносяць, што у апошнім часі расейскіе войскі перавезены с Фінляндіі на рыжскі фронт, дзе яны ўступілі ў баталію. Вайсковые транспорты вызвалі значную недахватку вагоноў, і з гэтай прычыны прышлося шмат агранічыць рух тавароў у Фінляндіі.

### Вайна на паветры.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 30 студня на поўдні ад Рыгі, на Аа, на вузкім фронці зрабілі да 50 палётоў. Хаця ў верхніх слоях паветра быў мароз да 40 градусоў, мы кінулі 900 кілёгр. узрывучатых матэр'ялоў на газовы завод у Рызе, вагзалы і таборы ворагоў. З расейскаго боку за ўвесь дзень паказаліся толькі два самалёты далёка за іх лініямі.

### Адгалоскі прамовы Канцлера.

БЭРЛІН. Ранічные газэты с прычыны прамовы канцлера аб усіленай падводнай вайне пішуць, што гэта—пасьля непрыняцьця нямецкаго мірнаго прэдлажэньня—апошні крок, які павінен скора прывясьці да міру. У гэтай справе ўвесь народ згаджаецца с правіцельствам.

### За мір.

ЛЮГАНО. Італьянскіе офіцыальные прэдстаўнікі соцыалістоў, як пішэ іх газэта «Avanti», падалі ў Камэру новае прэдлажэньне аб заміраньні. Яны напамінаюць аб пісьме Вільсона і дамагаюцца ад правіцельства выпаўненьня мэт, паказаных у пісьме Вільсона.

### Пляны Вільсона.

НЬЮ-ІОРК. Як пішэ «World», Вільсон мае два пляны дзеля паддзержкі справы міра. Гэта: запрасіць ваюючые дзержавы на офіцыальную нараду аб прынцыпах пісьма Вільсона, або прэдлажыць дзержавам паслаць сваіх прэдстаўнікоў у камісію, назначаную прэзыдэнтам для устанаўленьня часоваго замірэньня перад конфэрэнціей аб міры.

### Вайна да канца!

ЛОНДОН. (В. Т. Б.). У аднэй сваей прамові ў Вэстмінстэры міністэр колоній, Лонг, сказаў, што ні адна з заваёваных нямецкіх колоній ня вернецца ніколі да Нямеччыны.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Кароль звярнуўся да урадоў графств с просьбай арганізаваць дружыны дабравольцоў. Яны маюць складацца з мужчын, каторым болей гадоў, чым установлены найвышэйшы век для салдатоў. Глаўнакамандуючым гэтых дружын дабравольцоў кароль назначае гэрцога Коннт.

МЮНХЭН (В.Т.Б.). У ніжняй палаці міністэр-прэзыдэнт сказаў: „Англіцкі гандлярскі дух, французскі шовінізм і расейскі зямельны голад — вось прычыны гэтай найстрашнейшай з усіх войн. Мы і нашы саюзьнікі ня хочэмо вясьці нікчэмнаго жыцьця. Нашае дзержаўнае жыцьцё пасьля вайны павінно быць сільным і здольным да развіцьця. Не астаецца нічога іншаго, як дабіцца міру сілай, усей моцай і ўсемі спосабамі“.

---

## Крызіс сусьветнай вайны.

**Што скажэ Амэрыка?**

БЭРЛІН. На сягоньняшнім заседаньні глаўнай камісіі Рэйхстага імперскі канцлер сказаў прамову, гаворачы між іншым:

„Нас вызвалі на змаганьне да канца. Мы прынімаем вызаў. Мы робім стаўку на ўсё — і мы дойдзем пабеды! Гэтак справа вядзеньня падводнай вайны ўвайшла ў свой апошні і аканчацельны фазіс... Цяпер настаў момэнт, калі мы з добрай надзеяй на ўдачу можэм рызыкаваць гэтым крокам. Чысло нашых падводных лодак вельмі значна павялічылося супроць таго году. Калі мы гэтак можэм лічыць шмат вялікшай карысць для нас ад неагранічэнай падводнай вайны, чым у тую вясну, дык разам с тым ад таго часу паменшылася і небаспечнасць, якая нам гразіла ад гэтай вайны. Гіндэнбург сказаў мне колькі дзён таму назад: „Наш фронт стаіць усюды цьвёрда. Мы ўсюды маем патрэбные рэзэрвы. Настраеньне войск — добрае і бодрае. **Агульнае ваенное палажэньне дае нам магчымасць прыняць на сябе усе пасьледзтвы, якіе вынікнуць ад неагранічэнай падводнай вайны**“. Адміральны штаб цьвёрда пераконан, што Англія будзе аружжэм прымушэна да замірэньня...

**„Ніхто не зачыняе вачэй перад небаспекай таго кроку, які мы робім.** Кожнаму ад 4 жніўня 1914 году вядома, што справа йдзе аб нашае жыцьцё. Непрыняцьцем нашаго мірнаго прэдлажэньня гэта пэўнасць адзначэна крывёй. Калі мы пускаем цяпер у ход нашае найлепшае і найвастрэйшае аружжэ, дык мы кіраваліся цьвёрдай воляй ратаваць наш народ ад нешчасьця і ганьбы, якіе хочуць яму прыгатаваць нашы ворагі. Удача залежыць ад Вышняй рукі“.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Амэрыканскаму правіцельству послана сягоньня нота, ў якой гаворыцца між іншым:

„Пасьля таго, як у атказ на спробу угоды з ворагамі вайна рэзка абастрылася, імператарскае правіцельство, ня хочучы саграшыць проці свайго народу, прымушэно вясьці змаганьне за жыцьцё, да якога яго прымусілі, ужываючы ўселякаго аружжа. З гэтай прычыны яно прымушэно адрачыся ад эгранічэньня ужытку сваіх марскіх баевых сіл“.

Далей нота вылічае ваколіцы Англіі, Францыі і Італіі і ў усходняй часьці Сяродземнаго мора, дзе ад 1 лютаго 1917 году не дапускаецца надалей ніякае плаваньне. Нэутральные параходы, едучы туды, павінны браць атказ самі на сябе.

Урадам другіх нэутральных дзержаў посланы адпаведные ноты.

---

## Да мора.

Шчасьце народу залежыць ня толькі ад таго, каб людзі аднэй нацыі, ужываючые аднэй мовы, жылі-бы ўсе разам — на адным куску зямлі. Шчасьце народу залежыць у перэважнай меры ад цэлаго раду прычын, якіе датыкаюць палітычных, соцыальных, эконо-мічных і прыродных варункоў жыцьця яго старонкі.

Мы ня можэм назваць шчасным жыцьцё народу паднявольнаго, каторы, жывучы пад панаваньнем чужой дзержавы, ня мае магчымасьці развіваць свае творчые сілы. У гэткім паднявольным палажэньні быў наш Край за расейцоў, калі ўсе нашы справы дзержалі ў сваіх руках чужые нам людзі, панасыланые з розных канцоў Расейскай дзержавы, калі нават земскаго самаўпраўленьня мы не маглі дабіцца, калі расейскіе чыноўнікі рупіліся не аб нашу карысць, а аб карысць свайго правіцельства і свайго народу.

Ня можэм назваць шчасьлівым і таго народу, жыцьцём каторага кіруе жменя самаўладных паноў, а многамільённые грамады селян і работнікоў не маюць ніякаго голасу ў справах сваей бацькаўшчыны і жывуць, быццым скаціна рабочая. І такое ярмо ешчэ нідаўна — ўсяго толькі 50 з лішкам гадоў таму назад нёс пакорна наш народ, ажно пакуль не апалі векавые путы паншчыны.

Сумна і доля Краю, каторы знаходзіцца ў экономічнай залежнасьці ад суседзёў. Калі ў межах яго німа сваей прамышленасьці, сваіх фабрык, а ёсць толькі плады зямлі і рознае сыр'ё, — дык, каб атрымаць патрэбные фабрычные вырабы, Край павінен прадаваць свае дары зямлі і за вызволеные грошы купляць фабрыкаты. А яны — гэтые фабрыкаты — робяцца мо' як раз с тых самых нашых сырцоў, толькі рукамі чужаземных работнікоў, і мы сваімі грашыма паддзержываем чужые фабрыкі пад той час, калі нашы

нават найлепшые нямецкіе стратэгі ня будуць ведаць, якое мейсцо выбрано дзеля штурму.

**Пакушэньне на Ллойда Джорджа.**

ЛОНДОН. «Daily Sketch» піша, што 3 кабет і 1 мужчыну арыштавалі, вінавацючы іх у спробе атруціць прэм'ер міністра.

**Узрыў у Парыжу.**

ПАРЫЖ. (В.Т.Б.). У нядзелю ў палудні быў узрыў у фабрыцы пораху «Massy Paledaux», ад каторага фабрыка зруйнована. Папярпеў вагзал парыжскай кругавой чыгункі і суседніе дамы.

**Грэцкая трагедія.**

АФІНЫ. Начальнік грэцкай дывізіі на востраві Корфу дастаў ад каралеўскаго правіцельства прыказ перавесьці войско ў Патрас, пакінуўшы на востраві толькі 200 душ пад камандай афіцэра, вернаго саюзьнікам.

АФІНЫ. (В.Т.Б.). Цэрэмонія салютаваньня знамён саюзьнікоў адбылася паводлуг намечэнай праграмы пры паслах саюзьнікоў, грэцкім габінэці і начальніку I грэцкаго корпуса.

Перавозка грэцкіх войск у Пэлёпонэз скора будае закончана, але жаданьня саюзьнікоў гэтым ешчэ ня будуць здаволены, бо, апрыч перавезеных снарадоў і аружжа, у Грэціі знаходзіцца ешчэ каля 130.000 стрэльб. Пакуль іх ня выдадуць, блокады ня сьнімуць.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

**З Вільні і Віленскай губэрні.**

**Табор для ваенна-палонных Minden.**

Арчаніс Зыгмунт, Попішкі.
Бацэвіч Валеры, Гідокі.
Дорошкевіч Станіслаў, Кумпяны.
Гальваноўскі Антон, Купры.
Гапкі Ян, Савянок.
Лагіновіч Піліп, Вільня.
Маліноўскі Вінцэнты, Жыжмары.
Пётроўскі Ніканор, Повнары.
Рухлевіч Владзімір, Лугіцы.
Жэмайтіс Мацей, Іонянец.
Урбан Казімір, Васікяны.
Місевіч Пётр, Руда.
Білль Броніслаў, Доброполе.
Богдан Людвік, Скагінь.
Будгэрыч Антон, Удi.
Бусловіч Язэп, Ягеловшэры.
Дорошкевіч Язэп, Кампён.
Герстановіч Антон, Трасэчэнецi.
Грэйбо Язэп, Ліда.
Грызкоў Іван, Калоўшчына.
Куменскі Броніслаў, Вільня.
Колеснік Казімір, „
Корэйво Броніслаў, „
Кроппа, Язэп, Ловкінікі.
Куцілоўскі Казімір, Вільня.
Макушэвіч Фэлікс, Вільня.
Пашкевіч Марцін, Слібуты.
Прыхмонт Казімір, Груалоўскі.
Бакееў Юльян, Вільня.
Разінскі Іван, Долмончукі.
Рачына Іван, Вільня
Заёрскі Адольф, Запрудзьве.
Самоновіч Ян, Быстрыца.
Шалькоўскі Язэп, Карпаеноў.
Шэмаковіч Язэп, Фрычбы.
Жукоўскі Станіслаў, Вільня.

(Далей будзе).

## АБВЕСТКІ.